ЦАНА ДАГАВОРНАЯ.

**Владимир Иванович МАТВЕЕНКО**

**Азбука в загадках**

Рэдактар Валянцін БЛАКІТ (В. У. БОЛТАЧ).

Тэхрэдактар Г. В. ГІГО. Карэктар В. М. ШУСТ.

Здадзена ў вытворчасць 25.02.92. Падпісана да друку 27.03.92.
Фармат 70×108 1/16. Папера афсетная.
Літаратурная гарнітура. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,6. Ум. фарб.-адб. 4,8. Ул.-выд. арк. 2,0.
Тыраж 61 294 экз. Зак. 879. Цана ў розніцу — дагаворная.

**Адрас рэдакцыі:**
**220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга**
**друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».**
**220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**



«БІБЛІЯТЭКА «ВОЖЫКА»
№ 2 (212)

ІНДЭКС 74827

# Уладзімір МАЦВЕЕНКА



Уладзімір Мацвеенка




Мастацкае афармленне А. І. ГАРМАЗЫ.

БІБЛІЯТЭКА «ВОЖЫКА»

ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКІ ДОМ ДРУКУ»
МІНСК — 1992



Раз, два, тры, чатыры, пяць...
Літары ў радок стаяць,
Вывучым мы напачатку
З кожнай літарай загадку
І пачнём буквар чытаць.
Мама, тата, школа, крама,
Глеба, праца, запавет.
Знайце, дзеткі дарагія,
Літары хоць і малыя,
Ды адкрыюць вам сусвет.
Раз, два, тры, чатыры, пяць...
Пачынаем вывучаць.

## Аа




Адгадай,
Сынок, загадку:
Што за месцейка
За хаткай,
Дзе ўвіхаецца
Бабуля?
Родзяць там
Гарох, цыбуля,
Кроп і морква
Кожны год.
Гэта месца?
А... .



## Бб



Бачылі
Такіх майстроў?
Без пілы,
Без тапароў
Перш
Плаціну збудавалі,
Потым
Хаткі ўладкавалі,
А сям'я
Жыве штодзень
І на сушы,
І ў вадзе.




Вы мне
Адкажыце,
Ці бачылі
Ў жыце,
Ці ў полі
Улетку
Блакітную
Кветку?
Усміхаецца
Здалёк —
Гэта кветка
В... .








Груд зямліцы
Разваліўся,
З-пад іглiцы
Хто з'явіўся?
Ад дожджыку,
Ад сонейка
Прыкрыўся
Парасонікам?




Доўга працаваў
Садоўнік:
Клён паліў,
Паліў дзядоўнік,
Вымыў
Травы, і кусты,
І галінкі, і лісты.
Познім вечарам
Прагноз
Тэлевізáр
Нам прынёс —
Заўтра зноў
Ён прыйдзе ўсё ж,
Бо садоўнік
Гэты ... .





Джыганула
Штосьці Нінку —
Бо асу ўзяла
За спінку.
Нінка, пэўна,
І не знала,
Што кусака
Мае ... .



Дз




Дзюбкаю
Ўрач стукае —
Трубкаю
Не слухае:
Тук-тук-тук
Ды тук-тук-тук,
Пэўна, чулі
Ў лесе стук?
Трошкі сціхне,
Памаўчыць —
Й зноў пачне
Лячыць.



Ездзіў ранкам
Дзед Рыгор
Па яе
За цёмны бор.
А цяпер
Красуня ў зале,
Яе дзеці
Прыбіралі.
А назаўтра
Без турбот
З ёй сустрэнуць
Новы год!

Ёё



Ён жыве
Заўжды ў вадзе
І пры дне —
Не абы-дзе.
Часам клёў —
Не трэба горш,
Зрэдку клюне
Толькі ... .









Жоўта-зялёная
Хатка,
Спіць там
Дубочак-дзіцятка.
У зямлі вясной
Прачнецца
І да сонейка
Праб'ецца.
І пачне расці.
Пад шаты!
Кожны дзень —
Бліжэй да таты.

Зз





Зноўку снегам замяла
Увесь выган ля сяла.
Вецер гурбы абдымаў
І да неба паднімаў.
Ранкам глянулі ў акно:
Ух! Ад снегу ледзь відно.
Хтосьці мёў, і хтосьці выў,
Адгадайце, хто ж то быў?



Іі

І носік мае,
Ды не нюхае.
І вушка мае,
Ды не слухае.
І каляровы
Хвосцік мае,
Але і той
Штораз губляе.



й





«Йошка» —
Гэта наша кошка.
Яе
Дзядзечка-матрос
Нам
Аж з Аўстраліі прывёз.
У яе
Чатыры лапкі
І на кожнай
Кіпці-драпкі.
Ноччу
Вочкі гэтак ззяюць —
Жах
На мышак наганяюць.
А цяпер
Падумай трошку,
Як жа клічуць
Нашу кошку?

Круглы ён
І паласаты,
Брат прынёс
Яго дахаты.
Вельмі смачны,
Сакавіты,
Яркай чырванню
Наліты.
— Вось дык так,—
Смяецца Ала.—
Колькі з'ела,
А ўсё мала!








Ледзь на падэшвы
Новыя
Кляновыя
Метровыя
Закрэпяць петлі,
Мае ногі
Памчаць па снезе
Без дарогі.



Млеў
Ранак на полі
Улетку,
Сеў
Банцік паволі
На кветку.
На кветцы
Пад ветрам
Гушкаўся
І ўлегцы
Ў паветра
Узняўся.










На палічках
Стаяць сястрычкі.
Адзін і той жа
Тварык
Маюць,
Але
Па-рознаму
Спяваюць.

Оо




— Ой, ты, компас, памажы,
Часткі свету пакажы.
А той компас нам і кажа:
— Зараз стрэлка вам пакажа...
Вось яны, як на крыжы,
Без акрэсленай мяжы.
Па дзве супраць і наўпрост.
Норд і зюйд ды вест і о... .



Пп

Паднімае ўсіх
На золку,
Носіць
На хвасце
Вясёлку.
Рыцарскія
Шпоры мае,
Свой гарэм
Абараняе.



Рр

Ранкам
Ля ракі сядзіць
І на паплавок
Глядзіць.
Мо пашле
Яму рака
Печкура
На чарвяка?





Сс

Семачку-
Зярнятка
Пасадзіла
Натка.
Цуда вырасла
Дый годзе —
Сонейка
На агародзе.



Тутукнула
Ў вушка
Чырвоная
Дужка.
Я сяджу
Ля апарата
І кажу:
— Дзень добры,
Тата!









У мяне
Ёсць боты,
Іх нашу
З ахвотай
Мо таму,
Што дзед Хвядос
Боты
З поўначы прывёз.
Носяць іх
Зімой пілоты.
Здагадаўся,
Што за боты?



Ў кароткае
Ні разу
Не было
Ў пачатку сказа,
Яно гук
Кароткі мае,
Коску
На плячах трымае.
Спадзявацца
я магу,
Што запомніш гэта ... ?



Федзя, Том
І Міша Драч
За сялом
Ганялі мяч.
Пас паслалі –
Вось і гол!
А гулялі
У... .







Чабор,
Бруснічнік,
Мята
І іншых
Траў багата
Яго
Не абміне.
Як водар
Настаіцца,
Пачне
Праз носік ліцца.
Хто ён?
Скажыце мне.



Шост трымае
Дом з фанеры:
Ёсць акно,
Яно ж —
І дзверы.
Пад акном —
Аэрадром.
Адкажыце,
Што за дом?










Ы — літара,
Як глянеш вочкам,
Нібыта
Мяккі знак
З кіёчкам.

Чыжык-пыжык,
Дзе ты быў?
Лыжы добрыя
Набыў...
Вельмі ўважліва
Чытайце,
Тую літару
Шукайце,
Здагадаліся,
Сябры?
Ну, канечне ж,
Гэта ...






Мяккі знак
Сярод літар стаяў,
Мяккі знак
Перад сном пазяхаў...
Ды раптам — бом! —
Зваліўся гляк
І трапіў ён
На мяккі знак.
Пабіўся —
Не разбіўся
І ўголас
Пахваліўся:
— Пашанцавала
Мне аднак,
Што я
Упаў на м... .








— Эй, асілак!
Зноў капаеш,
Можа, скарб
Які шукаеш?
— Не, нічога
Не шукаю —
Станцыю метро
Капаю.

# Змест

## АДГАДКІ



